ПА КОЛАСАЎСКІХ МЯСЦІНАХ

Вёска Пінкавічы Пінскага раёна, дзе ў 1904—1906 гадах настаўнічаў Якуб Колас.

Фота С. КАЛЕСНІК.

# ДУМКІ АБ ІХ БУДУЧЫНІ

## Самадзейнасць? Так. Але НА ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫМ УЗРОЎНІ

НЕАГЛЯДНЫЯ прасторы адкрывае праект Праграмы КПСС перад народным самадзейным мастацтвам. «Атрымаюць шырокае распаўсюджанне народныя тэатры, масавая самадзейнасць, тэхнічнае вынаходніцтва і іншыя формы народнай творчасці. З асяроддзя ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці вылучацца новыя таленавітыя пісьменнікі, мастакі, музыканты, артысты».

Партыя надае вялікае значэнне ў культурным развіцці краіны народным тэатрам. Гэта абавязвае ўсіх работнікаў прафесіянальнага мастацтва думаць і клапаціцца аб іх будучыні.

Мінула два гады, як адкрылі заслону першыя народныя тэатры рэспублікі. Іх голас з кожным днём гучыць усё мацней.

У Беларусі 19 народных тэатраў. Амаль кожны вечар сотні і тысячы жыхароў гарадоў, раённых цэнтраў і вёсак ідуць на святло, якое загараецца ў клубах, палацах, дамах культуры, дзе выступаюць народныя тэатры, ідуць, каб убачыць «сваіх артыстаў», з якімі яны працавалі ўдзень на будоўлях, заводах, ва ўстановах і школах.

Не перабольшваючы можна сказаць, што цікавы і змястоўны спектакль з'яўляецца радаснай падзеяй. Ён прымушае людзей хваляваецца, перажываць, радавацца. Прыемна, калі гледачы, выходзячы з такога спектакля, паўтараюць словы сваіх любімых герояў і не толькі паўтараюць, але запамінаюць, робяць іх сваімі.

Глыбока дзейнічае на пачуцці чалавека праўдзівы сцэнічны твор. Вось чаму ўважліва і сур'ёзна павінен ставіцца кожны народны тэатр да выбару п'есы. Яго рэпертуар з'яўляецца той глебай, на якой можа расквітнець творчая дзейнасць калектыву.

Удумліва працуе над рэпертуарам большасць народных тэатраў. Аб гэтым сведчаць спектаклі «Таня», «Барабаншчыца», «Алазанская даліна», «Кухарка» (Пінск); «Юнацтва бацькоў», «Не верце цішыні», «Мараль пані Дульскай», «Апошні прыпынак», «Без віны вінаватыя», «Злавацца не трэба», «Раскіданае гняздо», «Меч і зоркі», «Спатканне ля чаромхі» (Магілёў); «Глыбокая плынь», «Выгнанне блудніцы», «Паўлінка», «Лявоніха на арбіце» (Ашмяны), «Выбачайце, калі ласка», «Позняе каханне», «Партызаны» (Полацк); «Папараць-кветка» (Слуцк); «Два колеры» (Віцебск).

Усё большае месца ў рэпертуары народных тэатраў займаюць п'есы беларускіх драматургаў. Добрым прыкладам у гэтай справе з'яўляецца праца Баранавіцкага тэатра з драматургам В. Зубам, Пінскага — з П. Васілеўскім, Слонімскага — над інсцэніроўкай «Глыбокай плыні» І. Шамякіна.

На маю думку, Міністэрству культуры варта даць права народным тэатрам заключаць дагаворы з аўтарамі на напісанне п'ес. Гэта будзе спрыяць вызначэнню творчай своеасаблівасці калектываў.

НА ПРАГРАМЕ любога спектакля ў ліку першых стваральнікаў яго мы бачым прозвішча рэжысёра.

«У сапраўдным рэжысёры, — гаварыў К. Станіслаўскі, — спалучаецца рэжысёр-настаўнік, рэжысёр-мастак, рэжысёр-літаратар і рэжысёр-адміністратар». Вось такі рэжысёр больш за ўсё патрэбны народнаму тэатру. Важна не толькі падабраць п'есу і ўдала размеркаваць ролі, але і быць настаўнікам калектыву.

Рэжысёр народнага тэатра, як ніхто, павінен ведаць душу кожнага свайго акцёра. Хто ён, чаго прыйшоў на сцэну, чаго чакае ад яе: лёгкага поспеху ці сапраўднага мастацтва?

Акцёры народных тэатраў — гэта не толькі лепшыя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, але і лепшыя працаўнікі на вытворчасці. Яны вучацца ў вячэрніх школах, рыхтуюцца да абароны дысертацый, выхоўваюць дзяцей, працуюць на заводах і будоўлях. І, не гледзячы на стомленасць пасля працы, прыходзяць на рэпетыцыю, аддаюць любімай справе ўвесь свой вольны час. Яны не толькі іграюць, але перастаўляюць дэкарацыі, шыюць касцюмы, робяць бутафорыю, а ў свой дзень адпачынку выязджаюць са спектаклем у калгас. Іншы раз пасля такіх гастроляў вяртаюцца дамоў пешшу, а раніцой ідуць на працу. Адданасць і любоў да тэатра дапамагаюць ім пераадольваць усе цяжкасці. Вось такіх людзей павінен умець шукаць рэжысёр народнага тэатра.

Рэжысура народных і самадзейных тэатраў — гэта сёння вельмі сур'ёзная праблема. Многія калектывы працуюць без вопытных, кваліфікаваных рэжысёраў. Ці не час Міністэрству культуры БССР і Рэспубліканскаму Дому народнай творчасці задумацца над гэтым? Можа, варта адкрыць пры Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце курсы, а пры тэатрах— семінары самадзейных рэжысёраў? Ці не мэтазгодна было б запрашаць асобных рэжысёраў народных тэатраў для пастаноўкі спектакляў у прафесіянальныя калектывы і наадварот? Заслужаны дзеяч мастацтва БССР Л. І. Мазалеўская абавязалася паставіць адзін спектакль на сцэне народнага тэатра. Трэба памножыць такія прыклады.

НАРОДНЫЯ тэатры выязджаюць на гастролі ў гарады і вёскі рэспублікі. Гастраліруюць яны не толькі летам, а і вясной, у час сяўбы і зімой. Амаль усе свае прэм'еры паказваюць калгасам і саўгасам свайго раёна Слонімскі, Баранавіцкі, Полацкі, Багушэўскі, Барысаўскі тэатры. Прыезд тэатра ў калгас ці новабудоўлю заўсёды радасная падзея.

Слонімскі народны тэатр амаль кожнае лета гастраліруе ў Баранавічах, а Баранавіцкі—ў Слоніме. Такія абменныя гастролі таксама вельмі карысныя.

Хвалюючай падзеяй у жыцці Баранавіцкага народнага тэатра была паездка на гастролі ў Польскую Народную Рэспубліку.

Добра робяць Гомельскае і Брэсцкае ўпраўленні культуры, арганізоўваючы паказ лепшых спектакляў сваіх народных тэатраў у абласных цэнтрах. Спектаклі ў Брэсце праглядаюцца грамадскасцю горада, артыстамі і рэжысёрамі Тэатра імя Ленінскага камсамола. Кожны спектакль абмяркоўваецца на творчай канферэнцыі разам з гледачамі.

У гастролях народных тэатраў многа яшчэ арганізацыйных і творчых непаладак. Не вырашаны пытанні з транспартам, з адпускамі артыстаў, продажам білетаў, адсутнічае планавасць гастроляй. Абласным упраўленням культуры неабходна планаваць гастролі народных тэатраў.

З КОЖНЫМ днём мацнее дружба народных тэатраў з прафесіянальнымі калектывамі. Яны сталі своеасаблівымі «спадарожнікамі» прафесіянальных тэатраў. Плённую дапамогу аказвае Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы Аршанскаму народнаму тэатру. У нараджэнні гэтага тэатра прымалі непасрэдны ўдзел рэжысёр тэатра К. Саннікаў і народны артыст СССР Б. Платонаў. Прагледзеўшы аднойчы спектакль аршанцаў, Б. Платонаў сваімі заўвагамі і практычным удзелам у рэпетыцыі паказаў самадзейным артыстам шлях да глыбокага раскрыцця вобразаў. Такая «практычная лекцыя» спадабалася самадзейным артыстам і яны запрасілі Б. Платонава выступіць у спектаклі «Канстанцін Заслонаў».

Народны артыст СССР П. Малчанаў аказаў значную дапамогу самадзейнаму артысту Баранавіцкага народнага тэатра М. Аграновічу ў працы над роллю Леніна.

Карысная творчая дружба ўстанавілася паміж Брэсцкім драматычным тэатрам імя Ленінскага камсамола і Пінскім народным тэатрам.

Артысты Брэсцкага тэатра выступаюць у Пінску, а артысты Пінскага народнага тэатра — на сцэне Брэсцкага тэатра. З асаблівай цікавасцю гледачы Брэста сустрэлі ў спектаклі «Кухарка» артыстку Народнага тэатра Т. Сівохіну, якая з поспехам выканала ролю Паўліны Хутарной.

Сардэчная творчая дружба існуе паміж калектывам Магілёўскага драматычнага тэатра і калектывамі Бабруйскага і Магілёўскага народных тэатраў. Тут часта можна бачыць не толькі на прэм'ерах, але і рэпетыцыях рэжысёра А. Раеўскага і мастака В. Акулава.

Штодзённую дапамогу аказвае калектыў рэспубліканскага Тэатра юнага гледача Баранавіцкаму народнаму тэатру.

На жаль, не ўсе прафесіянальныя калектывы і дзеячы сцэны цікавяцца патрэбамі народных тэатраў. У першую чаргу гэта мае дачыненне да Гомельскага драматычнага тэатра, які забыў дарогу ў тэатральную самадзейнасць сваёй вобласці.

Народныя тэатры чакаюць сістэматычнай дапамогі ад сваіх старэйшых сяброў, яны чакаюць творчай вучобы па сцэнічнаму майстэрству, рэжысуры, дэкарацыйнаму афармленню, па грыму, мове.

У ПРАЦЫ народных тэатраў ёсць яшчэ шмат недахопаў. Час ад часу трапляюць на сцэну слабыя п'есы, адсутнічае планавасць у рабоце над новымі спектаклямі, адзін тэатр выпускае адну-дзве пастаноўкі ў год, другі — тры-чатыры. Не вырашана пытанне з забеспячэннем матэрыяламі, неабходнымі для афармлення спектакляў. Час адкрыць хоць бы адзін магазін у Мінску па продажу парыкоў, грыму, рэквізіту.

Мала яшчэ цікавіцца запатрабаваннямі народных тэатраў Беларускае тэатральнае аб'яднанне, якое можа аказаць вялікую творчую метадычную дапамогу арганізацыяй кансультацый і лекцый для калектываў самадзейных тэатраў.

Паўстае пытанне аб стварэнні метадычнага цэнтра па кіраўніцтву народнымі тэатрамі. Трэба шчыра сказаць, што Упраўленне культасветустаноў Міністэрства культуры і Рэспубліканскі Дом народнай творчасці не спраўляюцца з гэтай задачай. У баку стаіць ад патрэб народных тэатраў і Упраўленне па справах мастацтва.

Народныя тэатры выходзяць на шырокую дарогу творчага жыцця, яны з'яўляюцца дастойнымі памочнікамі партыі, парасткамі камуністычнага мастацтва. Таму трэба няспынна думаць аб іх творчым і арганізацыйным станаўленні.

**Ул. СТЭЛЬМАХ,**
**дырэктар Тэатра юнага гледача.**

**Наступным у абмеркаванні праблем развіцця народных тэатраў рэспублікі выступіць у газеце аспірант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР С. Пятровіч.**

# МАСТАЦКІМ СЛОВАМ ПРА МАЛЕНСТВА І ЮНАЦТВА ПАЭТА

Фармаванне пісьменніка пачынаецца не тады, калі ён бярэ ў рукі пяро і схіляецца над чыстым аркушам паперы. Пачынаецца яно, бадай, з таго часу, калі чалавек расплюшчыў вочы, свядома зірнуў на навакольны свет і ўгледзеў яго такім, якой мастак бачыць сваю натуру перад тым, як адлюстраваць яе на палатне ва ўсёй разнастайнасці і гарманічнасці фарбаў.

Прасачыць вытокі, заўважыць фармаванне ў чалавеку таленту— задача нялёгкая і вельмі пачэсная. Нашы крытыкі і літаратуразнаўцы звычайна не ставяць сабе за мэту вывучэнне творчасці таго ці іншага пісьменніка ў сувязі з яго асабістым жыццём. Мне здаецца, вельмі пачэсную і патрэбную справу робіць той даследчык літаратуры, які ўзяў на сябе клопат аперыраваць не толькі фактамі літаратуры, але і даследаваць мастацкім словам вытокі самога таленту. З гэтага пункту гледжання ўяўляецца вельмі цікавай работа вядомага нашага крытыка і літаратурнага даследчыка Сцяпана Александровіча «Ад роднае зямлі», надрукаваная ў сёмым нумары часопіса «Маладосць». Аўтар даў свайму твору падзагаловак «Аповесць пра маленства і юнацтва Якуба Коласа».

Чытач ведае аўтара аповесці як удумлівага, сур'ёзнага даследчыка гісторыі літаратуры, як чалавека, які нямала папрацаваў над тым, каб узнавіць для нашага чытача многія цікавыя факты з жыцця і творчасці Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі. Работы літаратуразнаўца склалі цэлую кніжку, якая вельмі прыхільна была прынята чытачом. Аднак усё тое, што рабіў дагэтуль Сцяпан Александровіч у жанры біяграфічных даследаванняў, было як бы толькі першай прыступкай да разгортвання больш шырокіх палотнаў. Да такога шырокага палатна і належыць новая аповесць «Ад роднае зямлі».

Вядома, нялёгка пісаць пра канкрэтнае жыццё вельмі вядомага ўсім чалавека. Тут, калі аўтар і дасць прастор творчаму домыслу, дык гэты домысел павінен цалкам стасавацца да фактаў самога жыцця, як бы праясняць, высвятляць іх. Кожны чытач, які ведае біяграфію паэта, можа супаставіць аўтарскі домысел, «зверыць» яго з тым, што ён ведае пра паэта і, калі ён не супадзе, прынамсі, не здасца яму самой праўдай, тады не будзе веры ў праўдзівасць і шчырасць усяго твора.

Калі праўду казаць, дык я і сам браўся чытаць аповесць пра Якуба Коласа з нейкай насцярожанасцю: ці ўведаю што новае, цікавае з яе? Аднак жа з першага раздзела давялося прыемна пераканацца, што перада мною не звычайная біяграфія выдатнага нашага мастака слова, а сапраўды мастацкі твор з яркімі маляўнічымі дэталямі, з разгорнутымі характарамі, з цудоўнымі малюнкамі наднёманскай прыроды, з глыбокім адлюстраваннем народнага жыцця пярэдадня першай рускай рэвалюцыі.

Галоўны ў аповесці вобраз сялянскага хлопчыка, сына лесніка —Косціка, будучага славутага народнага паэта. Ужо з першай сустрэчы з хлопчыкам на старонках аповесці, бачачы яго дапытлівасць, цікавасць да навакольнага жыцця, чытач можа заўважыць, што гэта расце чалавек, які нясе ў сваім сэрцы нешта незвычайнае. Вось мы бачым, як Косцік, абхопліваючы рукамі камель старадрэвіны, лезе на самую вершаліну яе і глядзіць на навакольны свет.

«О які ён адсюль выглядае харошы!»

У першых раздзелах чытач знаёміцца з Косцікавымі бацькамі, дзядзькамі, з братамі Уладакам і Алесем, з усім свойствам Міцкевічаў: з дзедам Юркам Лёсікам, з бабкай Крысяй, з дзядзькамі Петрусём і Яўхімам і іхнімі жонкамі Альбінай і Анатоляй. Але амаль самым цікавым сярод гасцей, якія з'ехаліся на дажынкі ў Міцкевічаву хату, быў ляснік Амбражык Дземідовіч, па мянушцы Кубел.

Раздзел «Дажынкі» як бы ўводзіць чытача ў тую атмасферу, якая, відаць, доўга жывіла творчую фантазію будучага паэта. Дажынкавыя песні, скокі, дасціпныя прымаўкі і прыказкі, казкі і былі — вось той грунт, на якім суджана будзе ўзыйсці і закрасаваць будучай песні.

Але, бадай, самым галоўным, што выклікала гучанне паэтычнай струны ў сэрцы хлопчыка, быў уплыў дзядзькі Антося. Калі бацька Косціка — Міхал быў маўклівы, засерадкаваны на клопаце, як яму пражыць з немаленькай сям'ёй, дык меншы бацькаў брат заўсёды важдаўся з пляменнікамі, асабліва з Косцікам, заўсёды расказваў цікавыя казкі і гісторыі.

Неяк Косціку бацька купіў шапку. Прыгожую новую шапку з гузічкам. Хлапчукі пайшлі з дзядзькам Антосем па грыбы. Здарылася так, што Косцікава шапка недзе згубілася. Гэта была такая страта, якую хлопчык яшчэ ніколі не меў. Каб уцешыць хлопчыка, дзядзька Антось расказаў казку пра такую ж самую праяву, але якая здарылася з іншым хлопчыкам, і страта як бы паменшала. Гэта вельмі цікавы эпізод, які не толькі выяўляе характар дзядзькі Антося, але і раскрывае вобраз хлопчыка, яго адметнасць ад іншых дзяцей.

У аповесці многа раздзелаў. Яны самі па сабе кароткія, але я сказаў бы, што кожны з іх з'яўляецца пэўнай знаходкай і ў цэлым уводзяць чытача ў атмасферу тагачаснага народнага жыцця, з яго цяжкасцямі, але і з яго рамантычнай казачнасцю, песеннасцю. У народных казках і песнях заўсёды выкрываюцца і дасціпна асуджаюцца паны і іх паслугачы. Вось адна з гэтых казак: пану Беразоўскаму цар загадаў тры загадкі, бо, як казалі, тут ён самы разумны чалавек. Але колькі ні біўся пан Беразоўскі, ён не мог адказаць на царавы загадкі. Тады да яго падышоў мужык Салвесь: «Калі, пане, дасі мне мяшок бульбы і торбачку мукі на зацірку, дык адкажу за цябе цару на яго запытанні». І адказаў.

Атмасфера народных казак і паданняў была тым спажыўным асяроддзем, у якім у пэўнай меры фармаваўся светапогляд будучага пісьменніка як выказніка народных думак і спадзяванняў. І трэба сказаць, гэтая атмасфера вельмі добра ўзноўлена ў творы.

Першая кніжка. З Нясвіжа з кірмашу яе прывезлі як гасцінец бацька і дзядзька Антось. І ў той вечар, апроч кніжкі, для Косціка больш нічога не існавала. Слепечыся пры газоўцы, ён глядзеў на літары, як на нейкае дзіва, бо хлопчык яшчэ іх не ўмеў чытаць. Прачытаў пушкінскія радкі дзядзька Антось, і яны назаўсёды запалі ва ўражлівае сэрца хлопчыка. Чулая душа Косціка ўспрыймала ўсё маляўнічае, убірала ў сябе прыгожае. З маленства хлопчыка вабіла народнае жыццё, яго розныя праявы, скаргі і нараканні людзей. Тое, што адбывалася ў сям'і Міцкевічаў, тая паняверка, якую давозілася зносіць і лесніку, гора і нястачы, глыбока кранaлі хлопчыкаву душу. У ягоным сэрцы нараставаў гнеў, той ціхі пратэст, які пасля выліўся ў радкі, поўныя выбуховай сілы: «Стрэльбы, хлопчыкі. бяры!»

Але народнае жыццё складалася не толькі з адной паняверкі і скаргаў: у ім былі свае радасці, свае ўрачыстасці, і нішто гэта не праходзіла міма ўвагі, міма ўчэпістай памяці ўражлівага хлопчыка.

Неяк улетку ў Альбуці згарэла Міцкевічава леснічоўка. Ляснуў амаль увесь леснікоў набытак. Гэта найвялікшае гора для сям'і. Няшчасце кроіла і сэрца малога Косціка. Але вось прыйшлі цеслі ставіць новую леснічоўку. І сярод іх кінуўся ў вочы хлопчыку Мікодым Кухарчык. Нечым прычараваў ён да сябе малога. Чалавек ведаў многа казак, песень, прымавак, прыказак і мог іх бясконца расказваць. Косцік не адступаўся ад яго ні на крок.

Цікава, хоць і скупа аўтарам выпісан вобраз мікалаеўшчынскага настаўніка Мікалая Феафілавіча Корзуна. Дробнымі, але выразнымі штрыхамі пададзена яго вернападданіцкая сутнасць, раскрыта абстаноўка сельскай школы, якая па сутнасці забівала ўсё жывое ў вучняў.

Нарэшце, Нясвіжская семінарыя. Гэта той перыяд у жыцці будучага паэта, у які фармаваўся яго светапогляд, складваліся рысы нястомнага змагара за народную долю. І хоць у семінарыі панавала казёншчына, хоць з семінарыстаў імкнуліся выхаваць паслухмяных рабоў, сатрапаў царскага самаўладства, усё ж тут прабілася на свет і тое добрае, што пасля ўзрасло ў творчасці паэта вялікай любоўю да народа.

Семінарыстаў выхоўвалі такія людзі, як стацкі саветнік Меліяранскі. Яны стараліся заглушыць у будучых настаўнікаў праяўленне народнага духу. І ўсё ж сярод выхавацеляў знайшліся такія людзі, як Фядот Андрэевіч Кудрынскі, які, угледзеўшы ў хлопчыку іскру таленту, не пагасіў яе, а, наадварот, пастараўся распаліць. Чытач бачыць, як пры дапамозе разумнага педагога Кудрынскага фармаваўся густ будучага паэта. І не толькі пад уплывам аднаго Кудрынскага: семінарысты ў сваёй большасці былі вясковыя хлопцы, яны з сабою прынеслі столькі цікавага, што яно клалася ў памяць будучага паэта, як невычэрпныя пласты творчага запасу.

Сцяпан Александровіч паказаў жыццё Якуба Коласа ў сям'і і ў Нясвіжскай семінарыі. І хоць гэта той перыяд, калі па сутнасці яшчэ не было паэта, калі толькі выяўляўся яго талент, але з дакладных і вельмі выразных апісанняў сялянскага жыцця, быту семінарыстаў, іх імкненняў, чытач як бы ўжо ўгадвае і тыя праблемы, тыя сітуацыі, тыя вобразы, якія потым ажываюць у «Новай зямлі». Чытач бачыць той сацыяльны зарад, які пасля надасць выбуховую сілу вершам паэта, сілу пратэсту супраць прыгнёту селяніна.

Аповесць напісана выразнай, эмацыянальнай мовай. У ёй многа дасціпнай сялянскай мудрасці, гумару. Яна як бы грунтуецца на падмурку беларускага фальклору.

Вядома, аўтару можна зрабіць закіды, што ён не паказаў інтымнага боку жыцця Коласа, яго прывязанасцей і пачуццяў. Можна было б папракнуць яго за тое, што скупавата выпісаны вобраз бацькі паэта—Міхала, што і вобраз дзядзькі Антося не ўсюды роўна выпісаны. Але, як мне здаецца, гэта прыватнасці. Галоўнае ж у тым, што пісьменнік здолеў пераканаўча ўзнавіць тую атмасферу, якая спарадзіла, вылучыла і паставіла на перадавыя пазіцыі барацьбы за народную долю вялікага нашага паэта Якуба Коласа.

Аповесць разлічана на юнага чытача. Але яе з цікавасцю прачытае кожны, каму дарагі вобраз нашага народнага паэта, каму дарагая і любая наша родная літаратура.

Пажадаем жа поспеху новаму цікаваму твору.

**Раман САБАЛЕНКА.**

## З кінакамерай па рэспубліцы

На экранах гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў пачаў дэманстравацца кіначасопіс «Савецкая Беларусь» № 20, першы сюжэт якога — «Агонь славы» — расказвае аб тым, што ў сталіцы Беларусі на плошчы Перамогі быў запалены вечны агонь у славу тых, хто змагаўся за Радзіму ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

З другога сюжэта гледачы даведаюцца пра камсамольцаў Беларускага аўтазавода, якія ў вольны ад работы час сабралі для экіпажа камуністычнай працы Сакалоўска-Сарбайскага горнаўзбагачальнага камбіната 25-ці тонны самазвал. Гэтая машына-волат — падарунак XXII з'езду партыі.

Трыццаць год аддаў савецкай авіяцыі генерал-маёр Аляксандр Якаўлевіч Прынцаў, а цяпер працуе дырэктарам маладога саўгаса імя Фрунзе на Міншчыне. Яму і прысвечаны трэці сюжэт кіначасопіса «На мірным фронце».

З цікавасцю будуць прагледжаны кінакадры, у якіх расказваецца пра абарону дыпломаў студэнтамі Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту, аб міжнароднай сустрэчы ватэрпалістаў Варшавы і Мінска, а таксама аб паказальных выступленнях на мінскім стадыёне «Дынама» ўдзельнікаў спартакіяды па тэхнічных відах спорту.

Кінасюжэт «У выхадны дзень» зняты аператарамі І. Вейняровічам і Л. Шаталавым на беразе Мінскага мора. У заключэнне кіначасопіса паказаны выступленні самадзейнага калектыву Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя Леніна ў калгасах вобласці.

# СПЕКТАКЛЬ ЦІ ТЭЛЕФІЛЬМ?

Многа размоў ідзе пра спецыфіку тэлебачання. Тэлевізар, кажуць некаторыя, гэта — малы экран. Значыць, на ім павінны пераважаць буйныя планы.

Але наўрад ці знойдзецца тэлеглядач, які, упершыню прагледзеўшы па тэлевізару фільм «Браненосец «Пацёмкін», не будзе ўзрушаны гэтым шэдэўрам нашага кінематографа? А, між тым, тут менш за ўсё буйных і сярэдніх планаў. «Вясёлыя рабяты» або «Карнавальная ноч» таксама не буйнапланавыя фільмы, а глядач добра ўспрыймае іх па тэлевізару.

Дарэчы, нядаўна ў друку прамільгнуў такі факт: журы Канскага кінафестывалю праглядала многія фільмы не ў кінатэатрах, а на экранах тэлевізараў па трансляцыі Марсельскага тэлецэнтра і здолела даволі аб'ектыўна ацаніць іх.

Або гавораць так:

— Спецыфіка тэлебачання яшчэ ў тым, што малы экран не дапускае актыўнага мантажнага рытму.

Выходзіць, што камедыі Чапліна, фільмы Эйзенштэйна і Пудоўкіна, з іх імклівым мантажом, па тэлевізару не будуць успрыймацца? Практыка абвергла і гэтую «тэорыю».

І такую «спецыфічную» рысу называюць:

— Тэлевізар — справа інтымная. Тут трэба гаварыць адзін на адзін.

Значыць, для вялікай колькасці клубных і масавых установак трэба ствараць спецыяльнае тэлебачанне?

Размовы аб тэлевізійнай спецыфіцы вельмі зацягнуліся. Ці не час ужо даць гледачам добрую прадукцыю?

Так, тэлебачанне — мастацтва маладое. Але савецкае кіно ў дні сваёй маладосці ўжо на шостым годзе існавання (хутка і Мінская тэлестудыя будзе спраўляць свой шасцігадовы юбілей) дало неўміручага «Браняносца «Пацёмкіна». І ці не больш правільным будзе сказаць, што тэлебачанне — гэта своеасаблівы варыянт кінематографа. З такой думкай пагаджаюцца многія.

З гэтага пункту гледжання хочацца разгледзець некаторыя прынцыпы паказу на тэлеэкране спектакляў і інсцэніровак.

Спачатку — аб самых звычайных тэатральных спектаклях, якія мы часта бачым на нашых экранах. Яны або трансліруюцца са сцэны, або пераносяцца ў тэлестудыю. Часцей за ўсё гэта робіцца так: пасля папярэдняга азнаямлення са спектаклем яго падзяляюць на кадры. Пераважная большасць мізансцэн (глыбока тэатральных па сваёй сутнасці), як і трактоўка вобразаў, захоўваецца ў сцэнічнай інтэрпрэтацыі тэатральнага пастаноўшчыка. Але на сцэне ўсё гэта арганічна і цікава, а на экране тэлевізара выглядае зусім інакш. Тэлерэжысёр часам пашырае тэатральнае месца дзеяння, штосьці выносіць на натуру, уводзіць кінакадры, але ўвогуле за рэдкімі выключэннямі атрымліваецца шэрая копія тэатральнага відовішча. І не тэатр, і не кіно. Прыгадайце фільм-спектакль «Анна Карэніна». У тэатры — гэта выдатная пастаноўка. Але механічнае перанясенне яе на экран толькі шляхам «раскадроўкі» загубіла геніяльную працу МХАТ'а. Іншая справа фільм «Васа Жалязнова». У ім цалкам захаваны характар спектакля Малага тэатра. Але ў адрозненне ад «Анны Карэнінай» ён не ў дзвюх серыях, а ідзе паўтары гадзіны. І, галоўнае, пераказаны ён гледачам мовай экрана. Пераказаны арганічна, творча. І ў той жа час ніхто не скажа, што гэта не спектакль Малага тэатра з яго выдатным ансамблем.

У першым выпадку да спектакля падыйшлі механічна, у другім — творча. Але калі тэатральны спектакль пераносяць на тэлеэкран, то часцей за ўсё гэты перанос бывае механічным. Тэлеглядач бачыць не пераасэнсаваную для тэлевізара пастаноўку, а тэлевізійны «пракат» тэатральнага спектакля. Яго можна паказаць аператыўна, з малымі затратамі сродкаў і творчай думкі, але менш за ўсё ён можа задаволіць гледачоў.

Тэлестудыі часта робяць свае пастаноўкі. Такіх спектакляў Мінская студыя паказала ўжо нямала. Тут «Асенні смутак» М. Някрасава, «Не верце цішыні» І. Шамякіна, «Якаў Багамолаў» М. Горкага, «Успамін аб двух панядзелках» А. Мілера (рэжысёр В. Карпілаў); «Суд» Ул. Галубка, «У пошуках радасці» В. Розава (рэжысёр М. Моін); «Цемрашалы» А. Талстога (рэжысёр М. Співак), «Акцёр» М. Някрасава (рэжысёр Б. Вішкароў) і іншыя. Часу на падрыхтоўку такіх спектакляў выдзяляецца дастаткова, некаторыя з іх рыхтаваліся па чатыры з лішнім месяцы. А вынік атрымліваўся амаль такі ж, як і пры паказе гатовага тэатральнага спектакля. Чаму? Таму што рэжысёры ў большасці выпадкаў распрацоўвалі п'есы не кінематаграфічна, а ставілі па іх звычайныя тэатральныя спектаклі. І толькі пасля пастаноўкі пачыналася «раскадроўка» спектакля на буйныя і сярэднія планы, іначай кажучы, паўтараўся той самы механічны працэс. Праўда, у арыгінальных тэлеспектаклях падбіраюцца больш прыдатныя акцёры, грымы, касцюмы, афармленне. Можна назваць не мала тэлеспектакляў, добрых па рэжысёрскай і акцёрскай распрацоўцы. Гэта — «Якаў Багамолаў», «Суд», «Цемрашалы», «Успамін аб двух панядзелках».

На тэлестудыі ставяцца яшчэ інсцэніроўкі празаічных твораў. І іх стваральнікі зноў жа кіруюцца прынцыпам — бліжэй да п'есы, а ў пастаноўцы — бліжэй да тэатра. І ў гэтых выпадках рэжысёры бачаць не кінематаграфічны твор, а тэатральную пастаноўку.

Самае лепшае, калі аўтар адразу піша тэлесцэнарый. На жаль, такіх твораў на Мінскай студыі яшчэ не было, калі не лічыць тэлесцэнарыя Б. Бур'яна аб Валянціне Таўлаю.

Тэлеспектакль — гэта ў першую чаргу тэлефільм, кінематаграфічны па сваёй прыродзе твор. Тым не менш ён мае свае некаторыя перавагі перад звычайным кінатворам. Яго перавага—у аператыўнасці. Тэхніка кіно такая, што на выпуск фільма, апроч вялікіх выдаткаў, патрэбны і вялікі час. Тэлебачанне можа значна апераджаць кіно, быць больш своечасовым. Хутка пасля таго, як быў апублікаваны сцэнарый А. Даўжэнкі «Паэма аб моры», Ленінградская студыя тэлебачання паказала пастаноўку па гэтым сцэнарыі, у той час, як здымкі фільма на кінастудыі яшчэ толькі рабіліся. Вядома, немагчыма параўнаць каляровае шырокаэкраннае палатно рэжысёра Ю. Сонцавай і сціплую работу ленінградскіх энтузіястаў. Але тэлепастаноўка зрабіла сваю справу: аператыўна пазнаёміла гледачоў з новым творам геніяльнага мастака, ды і сама пастаноўка ў межах магчымасці тэлебачання атрымалася ўдалай і была ўзнагароджана дыпломам Камітэта радыёвяшчання і тэлебачання.

Хацелася б, каб і Мінская тэлестудыя была больш аператыўнай у такіх выпадках. Выйшаў з друку новы цікавы твор беларускага пісьменніка — і паставіць бы яго, не доўга думаючы.

Літоўская кінастудыя, напрыклад, ужо выпусціла фільм «Калі зліваюцца рэкі» па раману П. Броўкі, а Мінская тэлестудыя толькі надумалася ставіць яго.

Глядач з вялікай нецярплівасцю чакае арыгінальных тэлепастановак, але іх месца незаконна займаюць звычайныя паказы кінафільмаў. Кінематаграфія робіць сваю справу, але чаму тэлебачанне ператвараецца ў яго пракатную кантору? Фільм можна паглядзець і ў кінатэатры, а вось тэлеспектакль — толькі на блакітным экране.

**Ус. КУХТА,**
**рэжысёр тэлебачання.**

